Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 30 (84) Чацьвер, 6-га Жніўня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 20 гр.; у тэксьце — 15 гр.; на апош. стар. — 10 гр.

## Наш пратэст.

Надзеяй кожнага народу, яго будучыняй, ёсьць дзеці — маладое здаровае пакаленьне.

Мозгам народу, яго гонарам і сілай — ёсьць моцная і адпаведна выхаваная інтэлігенцыя.

Беларускі народ, дзякуючы дэнацыяналізацыйным і асыміляцыйным высілкам сваіх мацнейшых суседзяў, захаваў зусім нязначную частку інтэлігенцыі.

Зразумела, што разам з усё большым пашырэньнем беларускага руху, аднachасова павінны павялічвацца і кадры інтэлігенцыі. Падгатаўляе-ж гэтыя кадры нацыянальная школа.

І вось — трагедыя беларускага народу ў тым, што ён мае занадта мала сваіх нацыянальных школаў.

Праўда, у Савецкай Беларусі цяпер ёсьць шмат беларускіх школаў, але гэтыя школы *не дадуць здаровай і адпаведна выхаванай інтэлігенцыі*, бо ў іх, апрача мовы і досіць слабай веды, няма тых элемэнтаў, якія неабходны дзеля *выхаваньня моладзі*. Праўда, што перш—за—ўсё школа павінна даваць веду, але, апрача гэтага, яна павінна яшчэ закладаць у дзяцёх і першыя асновы маралі. Яна павінна нясьці дзяцём вышэйшую дысьцыпліну — дысьцыпліну духа, вышэйшую ідэю — рэлігію. Апрача гэтага, разам з выхаваньнем духоўным школа павінна выхоўваць і здаровае цела. Школа павінна ўзмацняць і паглыбляць прыродную любоў дзяцей да сям'і, бо сям'я — гэта аснова кожнага нацыянальнага гаспадарства. Нарэшце школа павінна выхаваць будучых грамадзян, сыноў сваёй Бацькаўшчыны і залажыць у іх душах, *вялікую любоў да гэтай Бацькаўшчыны*.

Гэтых элемэнтаў беларуская школа ў Савецкай Беларусі ня мае. „Там", замест першых падставаў маралі, у дзяцёнка забіваюць сорам; замест рэлігіі *намаўляюць* да *бязбожжа* і зьдзеку над самай верай і над тымі, хто веруе. „Там" калечаць душу дзяцёнка і ня дбаюць аб здароўі цела. Замест фізычнага выхаваньня і гульняў, дзяцей ганяюць на мітынгі і розныя ўрачыстыя парады. Там ня толькі не паглыбляюць замілаваньня да сям'і, а робяць усё магчымае, каб зусім вытравіць любоў да бацькоў. Там, замест патрыятызму, моладзі намаўляюць *любоў да Інтэрнацыяналу*.

Бедныя, нешчасьлівыя беларускія дзеці Савецкай Беларусі! У якіх цяжкіх, дзікіх абставінах яны растуць! Толькі бязьмерная агіда самога беларускага народу да комунізму і прыродны інстыкт самазахаваньня можа выратаваць яго моладзь ад поўнага калецтва.

У шмат лепшых варунках знаходзіцца беларуская моладзь тут— у заходняй, парлямэнцкай Дзяржаве. Але, як мы ўжо зазначалі, вялікае няшчасьце беларускага народу крыецца ў тым, што мы тут, у Польшчы, амаль што зусім ня маем сваей нацыянальнай школы. І ў той час, калі „там", у большай частцы Беларусі, моладзь нашую калечаць, нам трэба ўсе высілкі скіраваць на тое, каб павялічыць лік беларускіх школаў тут, дзе наша моладзь мае магчымасьць атрымаць усё тое, што можа даць заходня - эўрапэйская культура.

У свой час палякі добра разумелі вялікае значэньне *нацыянальнай школы* і не баяліся рэпрэсіяў за тайныя свае школы падчас сваей няволі ў Расеі. Гэтак сама і мы павінны змагацца за сваю родную школу, бо кожная новая беларуская школа ёсьць вялікім здабыткам у нашым адраджэнскім руху. І тое, што Час. Бел. Радзе ўдалося дабіцца адчыненьня курсаў для беларускіх настаўнікаў, таксама ёсьць вялікім здабыткам. Няхай настаўнікі гэтыя, па сканчэньні курсаў, трапяць да так званых *утраквістычных* школаў, але—у гэтых школах будзе вучыць і выхоўваць нашых дзетак ужо ня чужы ім па нацыянальнасьці настаўнік, а свой беларус. Галоўная-ж вага гэтых здабыткаў у тым, што адабраць іх ад нас ужо ня могуць, бо здабыты яны *грамадзкім легальным шляхам*. „Там"-жа усё беларускае дадзена надта лёгка, — „па ласцы" маскоўскіх камісараў і гэтак-жа лёгка можа быць зьліквідавана, як ужо зьліквідаваны, *ненатрэбныя* больш комуністым, цэлыя незалежныя Рэспублікі.

Вось дзеля чаго мы гэтак востра зарэагавалі на спробу *ўнясеньня заразы* ў нашыя, і так нялічныя, беларускія школы! Выпадкі, якія мелі мейсца ў апошні час у Віленскай Беларускай Гімназіі, змушаюць нас падняць свой голас.

Дзеці, моладзь наша ня толькі ўцягваецца ў палітычную працу, але іх ужываюць да *комуністычнае* працы. Усе мы памятаем нядаўні працэс вучняў гэтае Гімназіі, па абвінавачаньню іх у комунізьме дзе на лаўцы падсудных сядзелі амаль—што ня дзеці. У рэзультаце — вучэнь 6 клясы (!) Віл. Бел. Гімназіі А. Салагуб засуджаны на 2 гады крэпасьці за комуністычную працу; б. вучань тэй-жа гімназіі А. Канчэўскі засуджаны на 4 гады катаргі, а вучань Кійко „уцёк" у Менск. На чарзе новы *комуністычны працэс вучняў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі і Вялейскай Гімназіі* — Сярэбранікава і іншых, з якіх Сярэбранікаў „уцёк" у Менск, а рэшта сядзіць у вастрозе. Апрача ўсяго гэтага, мы маем яшчэ новыя факты, якія высьветлены агульным сходам беларускага грамадзянства ад 26 — VII: вучняў Віл. Бел. Гімназіі змушалі падпісываць комуністычныя аднаднёўкі і пасьля перапраўлялі гэтых вучняў за граніцу. А як гэтыя *бяздольныя хлапцы* будуць „там" *скарыстаны* — усім добра вядома.

Мы першыя зарэагавалі на гэтыя прыкрыя зьявішчы. Зарэагавала на іх беларускае грамадзянства. Не рэагавалі *толькі беларускія паслы*, якія не адазваліся ні на гэтыя апошнія справы, ні на справу Шалешкі. Гэтым самым п. п. паслы пакрываюць недапусьцімыя факты калечаньня нашай моладзі і расправы з беларусамі на „тым" баку.

Але мы, беларуская інтэлігэнцыя, гэтых зьявішчаў не дапусьцім!

Мы пратэстуем проці калецтва нашай моладзі!

Мы пратэстуем проці працягваньня „хішчнай" рукі Комінтэрна з-за кордону за нашымі дзяцьмі, і проці спробаў утварэньня ў Польшчы *беларускага комсамолу!*

Мы пэўны, што ўсё праўднае беларускае грамадзянства будзе з намі і што, нарэшце, супольнымі сіламі, нам удасца палажыць канец калецтву нашай моладзі.

## Палітычны агляд.

У цэнтры сусьветных палітычных здарэньняў, як раней, стаіць эканамічны крызіс у Англіі і бальшавіцкая агітацыя ды перагаворы аб пакце бясьпекі, перайшоўшыя ў рашучую фазу свайго разьвіцьця. Эканамічны крызіс у Англіі прыймае надта паважны характар і пагражае абхваціць нават іншыя краі. Найвялікшы крызіс адчуваецца ў каменнавугальнай прамысловасьці, быўшай падставай усей іншай ангельскай прамысловасьці і ангельскага загранічнага экспорта Вываз ангельскага вугальля ў іншыя краі амаль што зусім спыніўся. Дзякуючы энэргіі ангельскага ўраду удалося запабегчы гэнэральнай забастоўцы горнарабочых, якая мелася распачацца ад 1 жніўня, пры падтрыманьні іншых работніцкіх і чугуначных арганізацыяў.

Ангельскі ўрад дакляраваў пакуль - што выплаціць уласьнікам вугальных копяў 20 міл. фунтаў стэрл. пад тым варункам, што яны ня зьменшаць работнікам аплаты да вясны. Але ці хопіць гэтых 20 міл на пакрыцьце дэфіцыту ў вугальным крызысе Англіі?

У Францыі ўжо амаль што не дайшло да забастоўкі горнарабочых. Там істнуюць часовыя варункі, якія ўрад хацеў зьмяніць. Рабочыя пагразілі забастоўкай і ўрад быў прымушаны ўступіць. Агульны вугальны крызіс адбіўся

і на Нямеччыне, ў якой, у апошні час, значна павялічыўся лік безработных. Няма што казаць, што й у нас каменна-вугальны крызіс састаўляе цяпер самае балючае мейсца ў нашым прамысловым жыцьці. Ня гледзячы на тое, што ўлетку пачалося шмат будаўляных работ і цяпер найвялікшы рух у сельска-гаспадарчых работах, лік безработных не памяншаецца, а павялічваецца. Узімку лік безработных даходзіў да 185.000. Вясной лік безработных быў 172.000. Цяпер-жа, як пачаўся конфлікт з Нямеччынай, ізноў пачаў расьці лік безработных.

Усе гэтыя абставіны надта выгадны для бальшавіцкай прапаганды, якая ў апошні час ізноў ажывілася. Бальшавізм ува Францыі прыняў гэтак паважную форму, што ўрад Пэнлевэ быў прымушаны знайсьці надзвычайныя способы змаганьня з ім. Рада міністраў апрацавала спэцыяльныя загады. Французскі суд засудзіў у вастрог на 6 месяцаў нават дэпутата палаты і лідэра камуністаў Кашэна за прапаганду сярод арміі. У Алжыры і Мароко ўвесь час арыштоўваюць французскіх комуністых, якія працуюць на карысьць ворага. Ня меншую энэргію праяўляюць комуністыя і ў Англіі, дзе ангельскія рабочыя згаджаюцца нават утварыць адзіны фронт з бальшавікамі. Аб бальшавіцкай небясьпецы ў Англіі ангельскія міністры кажуць увесь час. І толькі на днях міністар заграні́чных справаў Чэмбэрлен заявіў у Ніжняй Палаце, што адносіны з С. С. Р. Р. ня могуць наладзіцца дзеля таго, што апошняя ня спыняе варожай для Англіі агітацыі ня толькі на тэрыторыі Англіі, але й у іншых дзяржавах, а асабліва ў Кітаі і эўрапэйскіх калёніях. Агульнае палажэньне ў Кітаі крыху палепшала, але небясьпека яшчэ ня мінула. Справа ў тым, што ў паўднёвым Кітаі ўтварыўся запраўдны савецкі ўрад, які зусім не прызнае ўлады цэнтральнага пэкінскага ўраду. І тут бальшавікі пачынаюць гаспадарыць. Высылаюць сваіх агітатараў, ваенных спэцыялістых, думаючы там утварыць базу дзеля агітацыі на Д. Усходзе. У апошні час бальшавікі асаблівую увагу зьвярнулі на эўрапэйскія калёніі ў Азіі і Афрыцы. Разам з немцамі яны высылаюць аружжа мароканцам, даюць ім харчы, ваенных інструктараў і агітатараў. У апошні час, як прыбыла ў Мароко француская падмога і былі назначаны на фронт лепшыя францускія афіцэры, палажэньне значна палепшала. Рыфэны былі адкінуты на 50—70 кілёмэтраў ад сталіцы Фэца і важнага жал.-дар. пункту Таба.

Але, не пасьпеў маршал Пэтэн пакінуць тэрыторыю Мароко, як Абдэль-Крым ізноў захапіў ініцыятыву ў свае рукі дый атакуе францускі фронт у розных мяйсцох. Ужо захоплена ўмацаваная француская пазіцыя пры Аин-Буіса, узарваны параховы склад у м. Ларашу і г. п.

Францускае афіцыяльнае паведамленьне цьвярдзіць, што праз 3 тыдні можа распачацца новае наступленьне проці рыфэнаў у вялікім разьмеры, а, пакуль-што, францускае войска перайшло да абароны.

У Францыі, наагул, заметна нездаваленьне вайной у Мароко. Газэта „Ere Nouvelle" (афіцыёз мін. Кайо) аткрыта прызывае да міру з рыфэнамі. Трэба зазначыць, што ліквідацыя мароканскай вайны ўскорыла-б перэгаворы аб пакце бясьпекі, якія ўжо ўступілі ў рашучую фазу. Шансы немцаў у гэтых перэгаворах значна павялічыліся дзякуючы перашкодам, якія маюць Францыя і Англія ў Мароко і ў Кітаі. Паскольку Францыя чуецца аслабленай, відаць з таго, што яна загадзя аслабаняе нямецкі прамысловы район. Ужо французы пакінулі важнейшыя нямецкія прамысловыя цэнтры як Дюссэльдорф і Эссэн. Ужо французы пакінулі правы бераг Рэйна і эвакуацыя ідзе й далей. Гэткія-ж уступкі Нямеччыне робіць і Англія, каб перацягнуць яе на свой бок. Што-ж датычыцца нямецкаго адказу на ноту Францыі па пытаньню аб пакце бясьпекі, дык з гэтага боку погляды Францыі і Англіі ўсё яшчэ разыходзяцца. Прынцыпова і адна і другая згаджаюцца з нямецкай прапазыцыяй і хацелі-б зрабіць з немцамі гарантыйны дагавор. Гэтага дамагаецца й Амэрыка, якая, у канцы канцоў, хацела-б бачыць Эўропу ў згодзе. Але ў паасобных пытаньнях погляды Францыі і Англіі на нямецкую прапазыцыю разыходзяцца. Францыя ня хоча адмовіцца ад права гарантаваць бясьпеку ня толькі заходніх, але таксама й усходніх граніцаў Нямеччыны з Польшчай і Чэха-Славакіяй. А Англія, як і раней, моцна трымаецца свайго погляду, г. зн. гатова бараніць непарушнасьць толькі заходняй граніцы Нямеччыны і ня хоча браць на сябе гарантыю ўсходніх граніцаў з Польшчай і Чэха-Славакіяй. Апрача таго пытаньне аб пераезьдзе францускага войска праз нямецкую тэрыторыю хоча перадаць на разгляд Лігі Народаў. Па гэтаму пытаньню хутка будзе вызначана спэцыяльная конфэрэнцыя ангельскіх, францускіх і бэльгійскіх прадстаўнікаў у Брусэлі з учасьцем амэрыканскага прадстаўніка, як даглядчыка. І на гэтай конфэрэнцыі пакт бясьпекі або будзе аканчальна прыняты, або будзе на доўга пахаваны, як Жэнэўскі пратакол.

*N.*

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

Як паведамляе «Słowo», прэм'ер міністраў Грабскі запрапанаваў б. дырэктару Дэпартамэнта Гандлю ў «Літве Сьродковай» інжынеру Шопе партфэль Міністра Публічных Работ.

ПАТ паведамляе аб тым, што 3 г. жніўня ў Маскве падпісаны польска-савецкі дагавор аб ліквідацыі гранічных выпадкаў. У зьвязку з гэтым, у Ямполі на Валыні ў хуткім часе мае адбыцца паседжаньне мяшанае польска-савецкае камісіі, якая будзе разглядаць справы забраных большавікамі Манчынскага, Рондоманскага і іншых.

**За граніцай.**

З **Англіі** паведамляюць аб зьліквідаваньні забастоўкі горнарабочых. Выканаўчы камітэт горнарабочых выдаў адпаведную адозву да сваіх сяброў, у якой зазначае, што аплата да вясны зьменшана ня будзе.

У **Баўгарыі** кабінэт міністраў Цанкава падаўся ў дымісію. Кароль Барыс даручыў арганізаваньне новага кабінэту — Турлаку, быўшаму міністрам у кабінэце Стамболійскага. Турлак вядзе перагаворы з сялянскай партыяй.

Як паведамляе ПАТ, у **Чэхіі** арыштаваны павадыр комуністых Гоусэр і журналісты Стастны, якіх абвінавачваюць у тым, што яны падгатаўлялі напад на прэзыдэнта Массарыка.

З **Токіо** паведамляюць, што японскі кабінэт міністраў з-за спрэчак па пытаньню аб новых налогах падаўся ў адстаўку.

У **Мароко** ў апошні час - заціішша. Вядуцца перагаворы аб міры.

У **Кітаі** насяленьне байкатуе англійскія і японскія тавары. Пэкінскі Урад пастанавіў увайсьці ў перагаворы з Кантонскім урадам аб арганізацыі агульнага фронту проці эўрапэйцаў.

З **Італіі** паведамляюць, што на выбарах у Палермо фашысты здабылі на 15 тысячаў галасоў больш чым іншыя партыі. У Рыме аб'яўлена поўная амнэстыя для палітычных праступнікаў.

З **Бэрліну** атрыманы весткі аб тым, што акупацыйныя ўлады «эвакуавалі» Эссен і Мюльгаўзэн. Гэткім чынам ачышчаны ўжо ўвесь Рурскі вокруг.

---

# Агляд прэсы.

Ня раз ужо прыходзілася нам даводзіць аб тым, што ня наш мірны беларускі селянін бывае прычынай розных «крэсовых эксцэсаў», а што выклікаюць іх агульныя ненармальныя абставіны крэсавага жыцьця і неадпаведнасьць мяйсцовай адміністрацыі.

У апошні час шмат гаворыцца, між іншым, аб унормаваньні царкоўнага жыцьця на крэсах.

Цікавы прыклад таго як гэтае «унормаваньне» праводзіцца ў жыцьцё падае «Праваслаўны беларус», апісваючы адзін с прыкладаў адабраньня царквы ад праваслаўных і перадачы яе каталіком.

„Мы ужо ўспаміналі якая сумная доля чакае праваслаўную царкву у Мала-Мажэйкаве, Лідзкага пав. Мы выказывалі сваю надзею, што стараньні каталікоў захапіць у свае рукі нашу сьвятыню ня будуць мець удачы. А тым часам, не зважаючы на шмат-разовыя просьбы і дэлегацыі, як царкоўнае ўлады, так і праваслаўных парахвіян, адміністрацыйная ўлада дамагаецца зачыненьня царквы ў Мала-Мажэйкаве і аддачы яе пад касьцёл".

Звычайна, адабраньне царквы матывуецца тым, што раней яна

---

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.

# ДРЫГВА

**драматычны эскіз ў 6-ех абразох.**

(*Глядзі „Грам. Гол." № 82*).

**Міхалка.** А ты гэта датычна Манькі?... Ды-ж мне усё роўна!..

**Лякдугна** (*зьдзівіўшыся*). Усё роўна?

**Міхалка.** Але. Ну, пойдзем да іх! (*Ідуць у сярэдзіну*).

**Гаспадыня** (*да Галубоўскага*). А я колькі разоў ужо казала Галубоўскаму, каб так не напіваўся! Ізноў п'яны! Прыйшлі госьці, а ён сядзіць, налізаўшыся як шавец!.. Э, годзі ўжо гэтага! Найму фартэп'ян, пасаджу якогась музыку, а Галубоўскага з гэтым гармонікам вон праганю!

**Галубоўскі** (*цалуючы яе ў руку*). Панічка! не выганяйце! Дзе-ж я падзенуся? (*з п'янымі сьлязмі ў голасе*). Жонка выгнала, пані выганяе,—хіба галаву ў пятлю... А гэта... як-жаж ня піць, калі такі добры пан, гарэлкі дае, ласкава гаворыць...

**Гаспадыня.** Ну, ідзі ў складзік, прасьпіся. (*Ідзе ў кухню*).

**Галубоўскі.** Не, я пайду зайграю! (*бярэ гармонік і выходзіць у сярэдзіну*).

**Міхалка** (*уваходзіць з Манькай*). Ну, чаго хочаш?

**Манька.** Чаму-ж гэтак доўга ня прыходзіў? га?

**Міхалка.** Ці-ж доўга? Здаецца — не.

**Манька.** Не? Гэта-ж будзе каля двох тыдняў!

**Міхалка** (*няшчырым тонам*). Няўжо-ж будзе?.. Здаецца — не.

**Манька.** Каліcь ты часьцей прыходзіў. Мусіць часу ня меў?

**Міхалка.** Але, але. Ня меў.

**Манька.** Міхась! каточак! я маю да цябе просьбу...

**Міхалка.** Ну?

**Манька.** Ня пі! Я ня люблю, як ты п'яны... Мы гэтак даўно ня бачыліся, — вось пасядзім, пагутарым, разскажаш мне, што ты рабіў, а яны хай сабе п'юць... Я цябе вельмі прашу... Добра?

**Міхалка.** Вось табе на! А чаго-ж я сюды прыйшоў?

**Манька.** Што?! Ты значыцца прыходзіш сюды для гэтай праклятай гарэлкі, а не дзеля мяне?

**Міхалка.** Ды й да цябе прыхаджу, і выпіць з прыяцелямі прыходжу... Адно аднаму не перашкаджае.

**Манька.** Але... Для цябе твае прыяцелі ды гарэлка даражэйшыя за мяне? Каб іх!... (*плача*).

**Міхалка.** Вось маеш!... Ізноў сьлёзы!... Ну, скажы сама: ці-ж ня дурная? Ну, чаго ты плачаш? ці ёсьць прычына? Дзеля таго, што я прыйшоў выпіць, закусіць?... Каб я з іншымі дзяўчатамі задаваўся, — тады інакшая справа!..

**Манька.** Хто цябе ведае!.. Можа й гэта бывае, як я ня бачу... Ты-ж так даўно ня быў!

